ІНФА-КРЫМ

## ГАНДАЛЬ: ТАТАЛЬНЫ ПАДМАН

*Як паведамілі ва Упраўленні грамадска-палітычнай інфармацыі адміністрацыі Прэзідэнта, Міністэрствам унутраных спраў сумесна з іншымі ведамствамі па ўказанню Прэзідэнта праведзена праверка прадпрыемстваў гандлю ўсіх форм уласнасці. У выніку аператыўна-прафілактычных мерапрыемстваў усюды выяўлены факты падману пакупнікоў і ўтойвання тавараў.*

Па ўсіх фактах парушэнняў і злоўжыванняў, выяўленых у выніку праверкі, узбуджаны крымінальныя справы. У ходзе праверкі выяўлены таксама факты скупкі буйных партый тавараў, якія карыстаюцца попытам, з мэтай перапродажу іх за межамі рэспублікі. Гэта з'яўляецца характэрным перш за ўсё для прыгранічных Магілёўскай, Віцебскай, Гомельскай абласцей. Такія праверкі плануецца праводзіць і ў далейшым. Па іх выніках у заканадаўчыя, выканаўчыя і судовыя органы рэспублікі будуць унесены прапановы па змяненню дзеючых заканадаўчых і ведамасных актаў, якія рэгламентуюць дзейнасць гандлю.

БЕЛІНФАРМ.

## НЯМЕЦКАЯ ФІРМА – ЗА НАШУ БЯСПЕКУ

*Усё больш людзей даведваюцца аб справах Мінскай гарадской асацыяцыі "Насельніцтва за бяспеку". Створаная больш 2-х гадоў таму групай заснавальнікаў — прадстаўнікоў грамадскасці горада, актывістаў грамадскіх фарміраванняў праваахоўнай накіраванасці, яна за параўнальна кароткі тэрмін аб'яднала каля 300 фізічных і юрыдычных асоб. На праведзеным пасяджэнні ў якасці калектыўнага члена ў асацыяцыю прынята германская фірма "Хільдэнбранд-Электронік ГмбХ".*

Фірма выпрацоўвае абсталяванне для ўсіх службаў бяспекі, у тым ліку працуючых на транспарце, у банках, а таксама спецыяльную тэхніку для паліцыі.

Н.ГАЛАШАЎ,
кіраўнік прэс-бюро Мінскай гарадской асацыяцыі "Насельніцтва за бяспеку".

## "ПЕВЕНЬ" І НЯДБАЙНАСЦЬ

*Засушлівае лета прывяло да значнага росту пажараў у жылых масівах Жыткавіцкага раёна. Толькі ў чэрвені-ліпені адбылося 20 загаранняў, ці ўдвая больш леташняга.*

"Чырвоны певень" знішчыў 18 пабудоў і 8,5 тоны кармоў. Урон склаў звыш 66 мільёнаў рублёў (пасля дэнамінацыі). Найбольшая колькасць няшчасных выпадкаў зарэгістравана ў райцэнтры.

Алесь ЛАРЫЁНАЎ.

## НА АХОВУ ВЫХОДЗІЦЬ "АЛЕСЯ"

*Як паведаміла мінскае ўпраўленне аб'яднання "Аховы" пры МУС Рэспублікі Беларусь, з 1 верасня ў горадзе пачала праходзіць выпрабаванні аўтаматызаваная сістэма ахоўнай сігналізацыі "Алеся". Яна стане новай тэхнічнай распрацоўкай не толькі для рэспублік СНД, але, пэўна, зацікавіць і іншыя замежныя краіны.*

Стваральнікам новай ахоўнай сістэмы стаў навукова-даследчы інстытут "Агат", які тры гады таму атрымаў заказ ад МУС рэспублікі. У адрозненні ад сённяшніх сістэм сігналізацыі, што пастаўляліся раней з Расіі і працуюць у ручным рэжыме, беларуская "Алеся" камп'ютэрызавала здачу кватэр і аб'ектаў пад ахову, а таксама дазваляе перадаваць інфармацыю ад пульта прама міліцэйскім нарадам. Замест 100 новая сістэма мае магчымасць ахоўваць да 24 тысяч аб'ектаў. "Алеся" будзе выкарыстоўвацца і для аховы аўтамабіляў, кантролю за патрульнымі службамі міліцыі. Да канца года плануецца выпусціць 100 пробных новых прыбораў, а іх серыйная вытворчасць будзе наладжана з наступнага года. Па просьбе Расіі беларуская сістэма пройдзе выпрабаванні і на яе тэрыторыі. На думку спецыялістаў "Алеся" будзе таксама канкурэнтаздольнай на сусветным рынку, бо мае шмат якія перавагі перад заходнімі ахоўнымі сістэмамі.

Наталля ВАЛАКІДА.




## КОМІКІ... У ПАСОЛЬСТВЕ ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

*Вядучыя комікі ЗША і Вялікабрытаніі сабраліся ў Лос-Анжэлесе ў пасольстве Вялікабрытаніі, каб адзначыць 25-гадовы юбілей вядомай брытанскай камічнай трупы "Монці Пітон".*

Сярод гасцей былі такія вядомыя комікі як Сціў Марцін, Сід Цэзар і Рычард Праер.

## У БІХАЧЫ НЕСПАКОЙНА

*Зноў разгарэлася барацьба ў Босніі. За ўчарашнія суткі было зарэгістравана 900 выстралаў.*

Баснійскія групоўкі абстралялі рэгіён Біхач. У самім горадзе перастрэлкі не было. Многія ваенныя лічаць, што ў горадзе неабходна стварыць небяспечную зону, бо сітуацыя нестабільная.

## ВАТЫКАН СУПРАЦЬ АБОРТАЎ

*Завяршыла сваю работу канферэнцыя ў Каіры. Большасць удзельнікаў канферэнцыі выказаліся за дазвол абортаў. Толькі Ватыкан, а таксама некаторыя ісламскія дзяржавы былі супраць.*

## АПАЛЬНЫ РЭЖЫСЁР

*Аднаму з самых вядомых кітайскіх рэжысёраў Жань Йіму забаронена здымаць фільмы на працягу бліжэйшых 5 гадоў.*

Гэта суровае рашэнне кітайскіх улад было выклікана тым, што рэжысёр прадставіў увазе замежнай публікі свой новы фільм "Жыццё" без дазволу кітайскіх кампетэнтных органаў.

Яго сябру і перакладчыку Жонь Лі забаронены выезд з краіны і ўдзел у міжнародных кінафестывалях.

## ВАН ДАМ НЕ РАЗЛІЧЫЎ?

*Жан Клод Ван Дам вымушаны будзе заплаціць 500 тысяч даляраў за тое, што ў час здымак пакалечыў другога акцёра, які праходзіць службу на базе Форт Брэг.*

Усё пачалося з таго, што апошні быў звольнены са службы ў сувязі з тым, што часткова аслеп на левае вока. Гэта траўма — вынік удару Ван Дама ў 1988 годзе на здымках фільма "Кібарг". Некалькі работнікаў сцэны пацвердзілі, што ў час здымак Ван Дама неаднаразова прасілі не забываць, што гэта здымкі, а не рэальнасць.

## АПРАЎДАЎ "ДЭТЭКТАР ІЛЖЫ"

*Мяркуючы па ўсяму, справа аб абвінавачванні былога амерыканскага спартсмена Джона Сімпсана ў забойстве сваёй былой жонкі і яе сябра блізіцца да канца.*

Праведзены аналіз крыві даказаў, што кроў, знойдзеная на пальчатцы побач з месцам забойства, не належыць Сімпсану.

Допыт, які праводзіўся пры дапамозе найноўшай апаратуры тыпу "дэтэктара лжы", паказаў, што Сімпсан гаварыў праўду, калі заяўляў, што не мае да забойства ніякага дачынення. Цяпер чарга суддзяў і прысяжных вынесці справядлівы вердыкт.

## ЗАМЕСТ ЛЯЧЭННЯ – ВІДЭАКЛІП

*З-за хворага сэрца амерыканскі спявак Джон Меленкамп не прадоўжыць канцэртнае турнэ. Спявак звярнуўся да ўрачоў са скаргай на празмерную стомленасць.*

Пасля правядзення аналізаў медыкі рэкамендавалі Меленкампу прайсці курс лячэння. Нягледзячы на 14 адмененых канцэртаў, музыкант абяцае запісаць за гэты час відэакліп для свайго новага сінгла.

МАРАЛЬНЫ КОДЭКС

# Інтэрнатаўскія...

□ Наталля СТРАЛКОВА, "ЧЗ"

Разумныя дзядзькі і цёткі заўсёды шукалі прычыну, чаму з дзяцей вырастаюць дэбілы і пачвары. Ці гэта прычыны сацыяльныя, ці яны хаваюцца недзе ў генах... А можа, не першае і не другое, а нешта яшчэ.

Проста факт: у Жодзінскай школе-інтэрнаце 190 дзяцей. Толькі ў трыццаці з іх няма бацькоў — памёрлі ці загінулі. У астатніх — жывуць, нават нядрэнна сябе адчуваюць (за выключэннем, бадай, што тых, якія трапілі ў месцы не вельмі аддаленыя). Пераважная большасць мам і татаў пазбаўлена бацькоўскіх правоў і за час амаль 35-гадовага існавання дзіцячага дома не было выпадку, каб хто-небудзь з іх выправіўся. Ледзь прыкметнымі ручаінкамі сцякаюцца на ашчадныя рахункі хлопчыкаў і дзяўчынак мізэрныя аліменты. Такія, што смеху варты.

Якое шчасце, крычаць на ўсіх перакрыжаваннях барацьбіты за свабоду і дэмакратыю, што ў нас няма цяпер гэтых мярзотных ЛПП, дзе чалавека (няхай сабе і алкаша) трымалі за кратамі, пазбаўлялі яго права на выяўленне ўласных жаданняў, прымушалі працаваць... Цяпер ніхто не прымушае. Віват, свабода! Што можа быць больш каштоўным за цябе? Пі, колькі ўлезе — дзяцей выхавае дзяржава.

А дзеці ўсё роўна просяцца да мам, нават калі тыя "не прасыхаюць" і мораць голадам. Спасцігнуць псіхалогію такіх жанчын немагчыма, яны — памылка прыроды, а гэта ўжо не паправіць. Іх дзеці хлусяць, крадуць, п'юць, брудна лаяцца і жорстка б'юць больш слабых. Усе гэтыя "вартасці" пачынаюць выплываць ужо ў першым класе, а, можа, і раней. Нармальнае, добрае дзіця ў нашым з вамі разуменні — тут вялікая рэдкасць. У лепшым выпадку яно навучыцца хаваць заганы далей ад чужых вачэй, стрымліваць недазволеныя жаданні, але змяніць сваю існасць не здолее ніколі. І рана ці позна — сарвецца.

Як, напрыклад, васьмікласніца... І вучыцца добра, і паслухмяная, і ласкавая. Толькі чамусьці настаўніца, якая на нейкі час выйшла з класа, пакінуўшы на стале сумачку, потым недалічылася грошай... І падумаць адразу не маглі на дзяўчынку — такой яна здавалася шчырай і бязгрэшнай... Калі б гэта быў толькі адзін выпадак! Крадзеж у інтэрнаце — з'ява звычайная, ім тут нікога не здзівіш. Самае галоўнае — разабрацца, хто ўзяў, і... пакараць? А як? У многіх крадзеж ужо ў крыві — нешта накшталт прыроджанага інстынкту. Размова "па душах", здаецца, дапамагае, але ніхто з выхавальнікаў не можа быць упэўнены, што падобная гісторыя не паўторыцца. Крайняя мера — выклік на агульную лінейку, прылюдны разбор учынку. Гэта калі нехта правініўся не раз і не два. Але ці бывае ім сорамна пад час такіх "экзекуцый"? Асабліва калі ўлічыць, што добрая палова прысутных навучэнцаў нічым не лепшая?

Іх "даінтэрнатаўскае" жыццё — гісторыі не для слабых нерваў. Калі на тваіх вачах бацька забівае маці сякерай — потым цяжка патрабаваць ад цябе празмернай любові да блізкага. І ўсё ж іх імкнуцца выхоўваць дабрынёй і шкадаваннем. На маіх вачах завуч школы зачыніла дзверы літаральна перад носам у жанчыны, якая хацела ўладкавацца на работу ў інтэрнат. Зразумела, я здзівілася: дзесяць хвілін таму Валянціна Пятроўна Іваненка скардзілася на праблему з кадрамі, а тут... Яна зараз жа растлумачыла: "Гэта былая наша нянечка. Аднойчы мы ўжо выставілі яе за тое, што дзяцей біла. Бачыце, зноў прыйшла. Я з ёю размаўляць не хачу".



Адна з галоўных прафесійных якасцей "інтэрнатаўскіх" педагогаў — цярплівасць, узведзеная ў квадрат. Нават калі не дзейнічаюць ужо ніякія слоўныя аргументы і рукі пачынаюць трэсціся ад злосці, трэба прымусіць сябе ўсміхацца. Жорсткасць нараджае жорсткасць, а для многіх інтэрнатаўскіх дзяцей хвароба з такой назвай даўно ператварылася ў хранічную. У лагеры, дзе яны аздараўляліся летам, пятнаццацігадовая дзяўчынка з дапамогай двух малодшых братоў збіла палкай дзевяцігадовую. Ды яшчэ прымусіла маўчаць пад пагрозай большых здзекаў. Толькі выпадкова выхавальніца заўважыла сінякі... А хлопчык, які ішоў на Валянціну Пятроўну, мёртвай хваткай заціснуўшы ў руках табурэтку? Яна да гэтага часу не можа забыць яго вочы. І шпурнуў бы, невядома, чым бы ўсё скончылася, каб не дапамога іншай выхавальніцы, якая не разгубілася, кінулася да яго і літаральна прыціснула да стала сваім целам... Хлопчык вырас, паступіў у ваеннае вучылішча, і Валянціна Пятроўна паехала да яго на прынясце прысягі. А потым ён сам прыязджаў у інтэрнат, ужо камандзірам часці, з жонкай і сынам. Вельмі змяніўся, бязумоўна. Але нешта няўлоўнае, тое, што складаецца з дробязей і дэталей, усё ж нагадала ёй былога хлопчыка з табурэткай. Інтэрнат не здолеў адагрэць яго да канца. І не здолее ніколі. Таму што гэта дзядзькі і цёткі у ім хоць і добрыя, але не родныя, чужыя.

Многія інтэрнатаўскія дзеці пішуць са шматлікімі памылкамі і не могуць рашыць элементарнай задачы, затое страшэнна мацюкаюцца і цудоўна ведаюць, што трэба рабіць дзядзькам з цёткамі і наадварот. "Ідзі да мяне, я хачу цябе!"— можа сказаць дзяўчынка хлопчыку на перапынку.

Дзяўчынкі тут увогуле своеасаблівыя. У межах школы — ні-ні, ніякіх палавых кантактаў. Затое за межамі... Колькі горкіх прызнанняў прыходзілася выслухоўваць потым выхавальнікам. Калі б справа абмяжоўвалася толькі прызнаннямі! Рэгулярныя агляды гінеколага пацвярджаюць, што калі юныя спакусніцы яшчэ не пабілі "рэкордаў" сваіх уласных мам, дык, ва ўсякім разе, запісвацца ў манашкі яны не збіраюцца. Дарэчы, распіску з дазволам на аборт пішуць прадстаўнікі адміністрацыі інтэрната. Але гэта — у крайнім выпадку. Часцей жа яны проста адшукваюць тату будучага дзіцяці і праводзяць "сярод яго" тлумачальную работу ў вядомым накірунку. Пасля чаго звычайна маладыя ідуць у загс. Здараецца, дзяўчынкі "адбіваюць" айчымаў у сваіх маці і таксама ствараюць сем'і. Праўда, за якасць апошніх ніхто не можа паручыцца...

І разам з тым яны — дзеці наіўныя, даверлівыя, непасрэдныя, ранімыя... І ўсе як адзін прагнуць ласкі. А сапраўдную ласку можа даць толькі нармальны дом і нармальная сям'я. Таму і забіраюць да сябе на выхадныя выхавальнікі і настаўнікі некаторых шчаслівчыкаў. Апошніх абавязкова папярэджваюць: гэта не назаўсёды. І ўсё роўна малыя чакаюць канца тыдня, як манны нябеснай. Заглядваюць у вочы, перапытваюць па дзесяць разоў: а вы праўда возьмеце мяне да сябе? Сёй-той з дарослых раіў Валянціне Пятроўне не трывожыць ім душу, не падманваць дарэмнымі надзеямі. Але дзеці, вяртаючыся нават з чужой сям'і, робяцца зусім іншымі: больш спагадлівымі, мяккімі, спакойнымі — словам, лепшымі. Яны і не прэтэндуюць на пастаяннае "перасяленне", нібы падсвядома адчуваючы нейкую сваю другараднасць на гэтым свеце. Ім і так зайздросцяць усе астатнія, што не трапілі ў лік "шчаслівчыкаў". Але, акрамя зайздрасці, з'яўляецца і стымул для добрых паводзін: а раптам у наступны раз і мне пашанцуе?

Сярод інтэрнатаўскіх дзяцей няма адназначна дрэнных. Іх душы нібыта сатканыя з супярэчнасцей. Для многіх характэрна ранняя самастойнасць, гаспадарлівасць. Хлопчык, якога Валянціна Пятроўна брала на выхадны з сабой на дачу, увесь час хадзіў за ёю па пятах і прасіў: дайце мне якую-небудзь работу.... Былыя навучэнцы і сёння запраста заходзяць да яе ў дом, і калі Валянціна Пятроўна яшчэ не прыйшла з работы, самі гаспадараць на кухні, абіраюць бульбу, гатуюць вячэру... Часцяком ім, былым і сённяшнім навучэнцам, акрамя інтэрната, і падацца няма куды, хоць і бацькі якія-ніякія ёсць, і радні хапае. Скажам, Дзіма Шастаковіч... Не паспелі яго да бабулі ў вёску адправіць, як старая з'явілася ў школу і прывезла з сабою ўнука. "Непатрэбны ён мне,— кажа, — забірайце яго назад". Між тым, бабуля ў Дзімы — адзіная родная істота...

Сярожа Парфяновіч пасля службы ў арміі ўжо некалькі месяцаў жыве ў школе, — не можа знайсці работу... Альберт Кажамяка яшчэ служыць, але свой адпачынак таксама праводзіў у інтэрнаце, збіраецца вярнуцца сюды працаваць загадчыкам гаспадаркі — яму і месца трымаюць.

Усынаўляюць інтэрнатаўцаў нячаста. Гэтым летам дваіх дзяўчынак забралі — і тое, лічы, пашанцавала. Бо ўзрост ужо не той — "свядомы" ўзрост, ад сямі да семнаццаці, і "кантынгент" не з лепшых — у сэнсе тых самых генаў. Баяцца такіх забіраць. А былі выпадкі, калі дзяцей усынаўлялі ... і праз год, два, тры вярталі назад, як рэч, якая аказалася непатрэбнай у зладжанай гаспадарцы. "Мы не думалі, што з ім (ёю) будзе так складана..." Гэта самае горшае, што можа здарыцца з дзіцем. Тады яно назаўсёды адасабляецца і замыкаецца ў сабе. Два разы за сваё жыццё страціць бацькоўскі дом — гэтага не вытрывае і "дарослая" псіхіка, не тое, што маленькага чалавечка...

Вось немцы — тыя гатовыя ўсынаўляць усіх без разбору, а калі не дазваляюць, браць хаця б на аздараўленне. Дзіўныя людзі! Ім прамым тэкстам тлумачаць: у гэтага малога сур'ёзныя псіхічныя парушэнні, з ім будзе цяжка. А яны настойваюць на сваім, забіраючы на лета самых складаных. У іх нейкія іншыя адносіны да маленькіх. Ва ўсякім разе, на добрых і дрэнных, развітых і недаразвітых, здаровых і хворых дзеці там не падзяляюцца. Ёсць малое — і гэта ўжо шчасце, радасць найвялікшая...

У нас, калі усынаўляюць, выбіраюць вельмі пільна і асцярожна. З прыгожай знешнасцю, каб быў з незаплямленай спадчыннасцю, з выдатнымі паказчыкамі ў медыцынскай карце... Магчыма, у адрозненне ад задаволеных жыццём немцаў мы проста баімся дадаць да сваіх і без таго шматлікіх праблем яшчэ і процьму новых. Па гэтай самай прычыне так мала жадаючых адклікаецца на просьбу школы-інтэрната забіраць малых хаця б на выхадныя. Боязна. А раптам што паб'юць, зламаюць, украдуць? Потым пакуль дакупішся! Мы ж — не немцы...

У школьным садку хлопчыкі, што выбеглі на перапынак, дружна трэслі яблыню. Яблыкі адкочваліся далёка, дзеці кідаліся за імі навыперадкі — хто хутчэй падбярэ. Мне здалося, што і самі яны былі падобныя да гаркаватых пладоў з сумнавядомай прыказкі пра "яблык ад яблыні."

Дай Бог, каб я памылілася.

*На мяжы трох дзяржаў — Беларусі, Расіі і Украіны ўстаноўлены Паклонны Крыж у памяць славутых славянскіх асветнікаў Кірылы і Мяфодзія. Гэту акцыю правёў з блаславення свяцейшага патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Алексія II Міжнародны фонд славянскага пісьменства і культуры. Узначальвае яго вядомы ў Расіі скульптар Вячаслаў Клыкаў, аўтар створанага Крыжа.*

*Гэта толькі першы крок. Ужо ёсць папярэдняя дамоўленасць аб узвядзенні ля манумента Дружбы храма-помніка Святой Тройцы, які будзе сімвалізаваць адзінства трох славянскіх народаў. Парталы яго задумана ўпрыгожыць фігурамі святых славянскіх праведнікаў. Стварэнне гэтага храма накіравана на ўмацаванне брацкіх сувязей славянскіх народаў, падзеленых па волі ўлад з нядаўняга часу мытнямі і межамі.*

Сяргей ХАЛАДЗІЛІН, БЕЛІНФАРМ.
Фота аўтара.

## Студэнцкі конкурс

*Асацыяцыя садзеяння ААН у Рэспубліцы Беларусь аб'яўляе студэнцкі конкурс па эсэ "Маё пасланне ААН", якое прысвячаецца 50-годдзю Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Конкурс з'яўляецца сумесным праектам па адукацыі моладзі АС ААН у Рэспубліцы Беларусь і Сусветнай федэрацыі асацыяцый садзеяння ААН.*

Права на ўдзел у конкурсе маюць студэнты ВНУ ва ўзросце ад 18 да 25 гадоў.

Аб'ём эсэ: прыкладна 130—150 друкаваных радкоў (10—12 хвілін).

Мова: беларуская, руская.

Тэрмін падачы эсэ — да 10 снежня 1994 года па адрасу: 220050, г.Мінск, вул.Інтэрнацыянальная 24А, АС ААН з паметкай "Журы конкурсу".

Тры лепшыя работы будуць адзначаны АС ААН у Рэспубліцы Беларусь на спецыяльнай урачыстай цырымоніі, прысвечанай гэтай падзеі.

Эсэ першага прызёра разам з яго кароткай біяграфіяй, даведкай з ВНУ і копіяй пасведчання аб нараджэнні будзе адпраўлена ў Жэневу для далейшага ўдзелу ў Міжнародным конкурсе.

Першы прызёр Міжнароднага конкурсу будзе заахвочаны паездкай у Нью-Йорк для ўдзелу ў Памятнай сесіі Генеральнай Асамблеі ААН, прысвечанай 50-й гадавіне Арганізацыі Аб'яднаных Нацый.

Студэнту, які зойме другое месца ў Міжнародным конкурсе, будзе выдадзена стыпендыя ў памеры 1000 даляраў ЗША для аплаты за адукацыю.

Трэці прызёр атрымае датацыю ў памеры 500 даляраў ЗША для набыцця неабходнай літаратуры.

Усім пераможцам Рэспубліканскага і Міжнароднага конкурсаў будзе ўручаны міжнародны сертыфікат Сусветнай федэрацыі АС ААН.

АПЛАДЫСМЕНТЫ

## Дэбют шасцікласніка

У Магілёўскім рускім драматычным тэатры адбылася прэм'ера спектакля, упершыню пастаўлена на беларускай мове "Уваскрэшанне" паводле п'есы І.Чыгрынава "Следчая справа Вашчылы". Спектакль расказвае пра трагічныя падзеі 1774 года на крычаўскай зямлі.

Паўстанне сялян пад кіраўніцтвам Васіля Вашчылы супраць прыгнёту польскага князя Радзівіла было падаўлена з асаблівай жорсткасцю. Радзівіл (заслужаны артыст Расіі Мікалай Радзівонаў) меў на мэце знішчыць усю радаслоўную Вашчылы. Выкананне сваёй жорсткай задумы ён даручыў ротмістру, вобраз якога выдатна стварыў адзін з вядучых акцёраў тэатра Аляксандр Ташкінаў. У гэтым спектаклі на ролю малодшага сына Вашчылы быў запрошаны Ташкінаў, адзінаццацігадовы сын Аляксандра Ягор, вучань шостага класа магілёўскай СШ № 37. І хлопчык са сваёй роллю паспяхова справіўся. Яго вызначае глыбокае разуменне характару вобраза і выразная пластыка руху.

У спектаклі галоўную ролю выдатна выконвае заслужаны артыст Беларусі Рыгор Белацаркоўскі. Акрамя названых вышэй акцёраў, у спектаклі заняты заслужаны артыст Расіі Аляксандр Палкін, артысты А.П'янзін, В.Галкін, А.Паноў, І.Горын, С.Сасулева, Г.Лабанок, Е.Белацаркоўская, В.Пятровіч.

Да глыбіні душы ўзрушаюць сваім акцёрскім майстэрствам Вячаслаў Галкін і Аляксандр П'янзін, якія стварылі страшныя вобразы: першы — змрочнага подлага манаха, другі — пісара Вашчылы Івана Бочкі, у якога выразалі язык, але не аднялі беларускую мову.

Вадзім КУСТОЎ.

РОДНАЕ СЛОВА

# Высновы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы

Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы разгледзела стан літаратурнай мовы і яе ўжыванне ў апошнія гады ў пісьмовай і вуснай формах, матэрыялы шырокага навуковага і грамадскага абмеркавання яе сучасных праблем. Функцыяніраванне і развіццё літаратурнай мовы ў сучасных умовах нацыянальнага адраджэння з наданнем ёй статуса дзяржаўнай мовы, існуючыя ў ёй нормы і правілы патрабуюць уважлівага разгляду і аналізу. Існуе неабходнасць у развіцці слоўніка літаратурнай мовы, асабліва тэрміналогіі, у даследаванні і распрацоўцы яе граматычнага ладу, асабліва сінтаксісу, у выпрацоўцы арфаэпічных нормаў і павелічэнні да іх увагі, у пераглядзе правапісу, а таксама ў шырокім грамадскім абмеркаванні стану мовы і яе ўдасканалення, якое зараз праводзіцца.

У апошні час у беларускай літаратурнай мове склалася вельмі небяспечная для яе сітуацыя. Яе існуючыя нормы і прынятыя правілы, замацаваныя ўжо шматгадовай практыкай і пашыраныя ў розных сферах яе ўжывання (у непасрэдных зносінах, у кнігадрукаванні і інш.), пачалі масава парушацца не толькі па неахайнасці, у сувязі з вольным разуменнем іх і па непісьменнасці — пачалося зусім свядомае і мэтанакіраванае ўкараненне і пашырэнне ў практыцы ўжывання мовы, асабліва ў друку, іншых моўных нормаў і правілаў. У выніку гэтага ў літаратурнай мове абазначылася фактычнае суіснаванне дзвюх практычных нарматыўных арыентацый. Узнікненне такой моўнай сітуацыі можна вытлумачыць і зразумець, але наўрад ці можна пагадзіцца з тымі, што лічаць яе нармальнай, па сутнасці падтрымліваюць курс на ўсталяванне літаратурнага двухмоўя і не бачаць у гэтым нічога небяспечнага, не бачаць, што гэта ёсць разбурэнне самой літаратурнай мовы і дэзарганізацыя ў сферах яе практычнага ўжывання і пашырэння.

На пасяджэннях камісіі ў выніку разгляду і аналізу матэрыялаў грамадскага абмеркавання існуючых праблем літаратурнай мовы было ўстаноўлена і акрэслена шырокае кола канкрэтных пытанняў, якія патрабуюць вырашэння дзеля яе развіцця і ўдасканалення. Аднак праца камісіі была сканцэнтравана, як гэта і належала, над пытаннямі правапісу.

Камісіяй быў прароблены аналіз вялікай колькасці розных нярэдка супярэчлівых прапаноў і меркаванняў па змяненню або ўдасканаленню існуючых правапісных правілаў, якія былі выказаны ў перыядычным рэспубліканскім друку, на акадэмічнай канферэнцыі па правапісу, а таксама ў шматлікіх лістах грамадзян у камісію. У канцэнтраваным і сістэматызаваным выглядзе былі прадстаўлены ў камісію прапановы Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. Гэты аналіз меў не толькі навуковы, экспертны характар. У многіх выпадках ён праводзіўся шляхам разгорнутых эксперыментаў на канкрэтных матэрыялах літаратурнай мовы для аб'ектыўнай, навуковай ацэнкі практычнай прыдатнасці і большай дасканаласці прапанаваных правілаў у параўнанні з існуючымі. Аналізаваліся таксама прапановы членаў камісіі, варыянты распрацовак правілаў. Маючы ж на ўвазе існуючую зараз у літаратурнай мове сітуацыю, камісія імкнулася да пошукаў розных кампрамісных варыянтаў правілаў правапісу, якія дазволілі б пазбавіцца ад існуючага зараз правапіснага разнабою і канфрантацыі.

Вынікам працяглай і нялёгкай працы камісіі з'явіліся прапановы па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы, апублікаваныя для шырокага абмеркавання. Па многіх пытаннях правапісу ў камісіі быў дасягнуты пэўны кампраміс або згода адкласці іх абмеркаванне і вырашэнне. Не дасягнута было адзінства толькі ў адносінах ужывання мяккага знака на пісьме і, у прыватнасці, для абазначэння асіміляцыйнай мяккасці зычных. Гэта галоўная праблема сучаснага разнабою ў правапісе, і ёй была ўдзелена ў рабоце камісіі вялікая ўвага. На грамадскае абмеркаванне было вынесена чатыры варыянты не канкрэтнага вырашэння.

Грамадскае абмеркаванне прапаноў камісіі паказала, аднак, што адназначнай падтрымкі не атрымаў не толькі ні адзін з распрацаваных варыянтаў вырашэння праблемы асіміляцыйнай мяккасці зычных, але таксама і яе найбольш істотныя прапановы па іншых правілах існуючага правапісу. А галоўнае — не атрымала належнай падтрымкі само мовазнаўчае мерапрыемства па ўдакладненню і змяненню правапісу. Большасць навукоўцаў і прадстаўнікоў грамадскасці лічаць, што ў сучасных умовах дзяржаўнай неўпарадкаванасці, палітычнай раз'яднанасці грамадства і эканамічнай нестабільнасці ў рэспубліцы гэта з'яўляецца несвоечасовым і нямэтазгодным. Наяве крайне неспрыяльныя ўмовы для ўнясення істотных змен у правапіс, калі нават іх апраўданасць, у інтарэсах самой мовы, і не выклікае сумненняў. Праводзіць рэформу правапісу беларускай літаратурнай мовы можна будзе толькі тады, як наступіць трывалая палітычная стабілізацыя ў рэспубліцы, канчаткова ўсталюецца і ўмацуецца дзяржаўнасць Беларусі, яе суверэнітэт і незалежнасць. Небяспекі ў такім стрыманым падыходзе да вырашэння гэтай праблемы няма, бо наогул мова не належыць да тых катэгорый, дзе трэба праяўляць паспешлівасць, паддавацца пачуццю боязі — хаця б не спазніцца. Найвялікшая сёння наша бяда не ў тым, што правапіс вельмі ж ужо недасканалы, а ў тым, што ўвогуле беларускай мове, нягледзячы нават на яе дзяржаўны статус, усё яшчэ пагражае асіміляцыя і паглынанне з боку мацней усталяванай у нас мовы міжнацыянальных зносін, што становішча беларускай мовы ў нашым грамадстве ўсё яшчэ досыць кволае. На думку многіх руплiўцаў роднага слова, актуальнай задачай з'яўляецца зараз пашырэнне беларускай літаратурнай мовы ў грамадскіх зносінах. Змяненні ж у правапісе цягнуць за сабой не толькі матэрыяльныя выдаткі і затраты значнага часу на іх пашырэнне і ўкараненне, але і зніжэнне прэстыжу беларускай літаратурнай мовы, тэмпаў яе пашырэння ва ўжыванні. Ды і змяненні ў правапісе непазбежна вядуць да нестабільнасці яе самой. Абмеркаванне паказала таксама, што разважанні аб правапісе ў некаторых выпадках выходзяць за межы яго галоўнай моўнай і мовазнаўчай сутнасці.

Таму Дзяржаўная камісія па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы прапануе:

1. Працягваць у рэспубліцы навукова-метадычную працу па ўдакладненню і ўдасканаленню правапісу беларускай літаратурнай мовы, а таксама па яе граматычнай і лексічнай нармалізацыі і стабілізацыі і па культуры маўлення, для чаго мэтазгодна, як гэта і прадугледжана пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 18 мая 1994 г., утварыць пастаянна дзеючы Рэспубліканскі навукова-каардынацыйны савет па пытаннях правядзення дзяржаўнай моўнай палітыкі з належнымі рэкамендацыйнымі і кантрольнымі паўнамоцтвамі ў адпаведнасці з законам "Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь".

2. Акадэміі навук Беларусі і Міністэрству адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь да канца 1995 года падрыхтаваць да выдання новую рэдакцыю "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі" (з дадаткам правілаў беларускай арфаэпіі ), дзе былі б улічаны вынікі работы Дзяржаўнай камісіі па ўдакладненню правапісу беларускай літаратурнай мовы і іх грамадскага абмеркавання.

3. Да прыняцця новай рэдакцыі "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", дзеля захавання стабільнасці беларускай мовы, ухілення ад існуючай зараз правапіснай неаднастайнасці ў сродках масавай інфармацыі строга прытрымлівацца "Правілаў беларускай арфаграфіі і пунктуацыі", зацверджаных Акадэміяй навук БССР і Міністэрствам асветы БССР (выдавецтва Акадэміі навук БССР, Мінск, 1959).

